КІРАЎНІЦТВА НАРОДНА ГАСПАДАРЧАГА ВУЧОТУ БССР



# ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# НАРОДНА ГАСПАДАРЧЫ ВУЧОТ

№ 1

1 СЬНЕЖНЯ 1932 г.

Выданьне Белар. К-ры „СОЮЗОРГУЧЕТ"
МЕНСК 1932

Приступаючы да выданьня штомесячнага бюлетэня" Народна-Гаспадарчы Вучот" Кіраўніцтва Народна Гаспадарчага Вучоту БССР ставіць сваей задачай:

а) Канцэнтрацыю ўвагі вучотных органаў, як сваей уласнай пэрыфэрыі, гэтак і ведамственнай па асноўных і бягучых пытаньнях выкананьня адзінага пляну вучотна-стат. работ.

б) Узмацненьне канкрэтнага апэрацыйнага кіраўніцтва вучотна-статыстычнымі органамі,—як інспэктурамі, гэтак і ведамственнымі, шляхам вучоту вопыта работы на мясцох, абмена вопытам работы і абагуленьня яго, а таксама кантроль за выкананьнем.

в) Аказаньне дапамогі ў палепшаньні пастаноўкі справы вучоту як у цэнтральных органах, гэтак у асаблівасьці ў раённым апараце і сельсавеце.

З гэтай мэтай Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Вучоту ў бюлетэні будзе публікаваць афіцыйны матар'ял па вучоту, пастановы і дырэктывы ўраду, ЦКНГВ СССР і КНГВ БССР, інфармаваць аб выкананьні асноўных вядучых пытаньняў адзінага пляну вучотна-статыстычных работ; як ведамственнымі вучотнымі органамі, гэтак і гарадзкімі і раённымі інспэктурамі Нар.-Гасп. Вучоту, ускрываць недахопы і паказваць вузоры сапраўднай барацьбы за лепшую пастаноўку вучоту.

Надаючы вялізарнейшае значэньне палепшаньню справы вучоту ў раёне, Кіраўніцтва зьвяртаецца да райінспэктароў і супрацаўнікоў райінспэктур і работнікаў вучоту раенных устаноў з просьбай дасылаць матар'ял аб рабоце вучотных органаў на раёне і неабходных мерапрыемствах аб палепшаньні яе.

Разам з гэтым Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Вучоту БССР лічыць, што выданьне бюлетэня „Народна-Гаспадарчы Вучот" знойдзе шырокі водгук сярод усіх працаўнікоў ведамств, устаноў і прадпрыемстваў для дасылкі матар'ялаў, якія-б адказвалі задачам палепшаньня справы вучоту, на грунце абмену вопытам, выяўленьня лепшых вузораў працы і выпраўленьня маючыхся хібаў.

Выпускаемы бюлетэнь „Народна-Гаспадарчы Вучот" зможа выканаць свае задачы—стаць баявым інфарматарам, арганізуючым цэнтрам, скарбонкаю станоўчага вопыту, зброяй разгортваньня самакрытыкі толькі ў выпадку актыўнага ўдзелу ведамств, райінспэктур, работнікаў вучоту, прадпрыемстваў, калгасаў і саўгасаў.

**Кір. Нар. Гасп. Вучоту БССР**

# ВЫПІСКА

## з пратаколу № 18 ад 15/XI-32 г. паседжаньня Калегії Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Вучоту БССР.

СЛУХАЛІ:

Аб выданьні бюлетэня па Кіраўніцтву Нар. Гасп. Вучоту.

ПАСТАНАВІЛІ:

1. Лічыць неабходным выпуск штомесячнага інфармацыйнага бюлетэню Кіраўніцтва Нар. Гасп. Вучоту пад назваю „Народна-Гаспадарчы Вучот" па наступнай праграме:

1) Інфармацыя аб рабоце рэспубл. і гарадзкіх ведамств, гарадзкіх і раённых інспэктур.

2) Інфармацыя аб пастаноўцы вучоту ў с/с, калгасах, прадпрыемствах, саўгасах і г. д. (работа груп ОСУ).

3) Паказаць лепшыя вузоры і факты дрэнай пастаноўкі вучоту на мясцох, (выкарыстаць інструктарскі матар'ял Оргсэктуру і ОСУ).

4) Папулярызацыя аб прадстаячых і важнейшых мерапрыемствах у галіне вучоту.

5) Публікацыя важнейшых рашэньняў ЦКНГВ, СССР і КНГВ БССР.

6) Інфармацыя аб вопытных работах па рэканструкцыі вучота.

7) Матар'ял аб вучотна-статыстычных кадрах.

2. Першы нумар бюлетэня выпусьціць не пазьней 1-га сьнежня 1932 г.

3. Прапанаваць усім сэктарам Кіраўніцтва Нар. Гасп. Вучоту, сэктарам вучоту ведамств і Райінспэктурам Нар. Гасп. Вучоту пад асабістую адказнасьць нач. сэктароў і інспэктароў, забясьпечыць матар'ялы на прадмет выданьня бюлеценя па вызначанай праграме вылучыўшы адказных па гэтай справе асоб.

4. Разьмер бюлетэня 1—1½ друкаваных аркушаў пры тыражы 300 экз.

5. Тэхнічнае выданьне (друк) ускласьці на Саюзворгвучот. Тэрмін друку ўстанавіць 5 дзён, з 25 па 1-е наступнага м-цу.

6. Вылучыць адказным рэдактарам тав. Магідава, якому даручыць у бліжэйшыя дні намеціць склад рэдкалегіі і даць на зацьверджаньне Нач. Кіраўніцтва.

# ПАСТАНОВА № 152

## Эканамічнага Савету БССР.

*Менск, 22 ліпеня 1932 г.*

### Пра пастаноўку вучоту фондаў заработнай платы.

Эканамічны Савет БССР адзначае, што:

а) да гэтага часу не ўсе прадпрыемствы і ўстановы ахоплены плянаваньнем фондаў заработнай платы і справаздачнасьці аб выдаткаваньні гэтых фондаў, у прыватнасьці зусім не плянуюцца і не ўлічваюцца ведамствамі фонды заработнай платы: па капітальнаму будаўніцтву, загатоўчаму, гандлёваму і кіруючаму апарату і г. д.

б) у ведамствах існуе непаўната і разнабой у ахопе плянавых фондаў усіх катэгорый працуючых і ўсіх артыкулаў выдаткаў на заработную плату;

в) не даводзяцца своечасова, альбо зусім не даводзяцца квартальныя плянавыя фонды заработнай платы ведамствамі і аб'яднаньнямі да ўсіх прадпрыемстваў і ўстаноў, а апошнімі зацьверджаныя фонды не даводзяцца да філіялаў дзяржбанку.

г) у ведамствах адсутнічае поўная і дыфэрэнцыяваная па галінам справаздачнасьць аб выплачанай суме заработнай платы.

Выходзячы з гэтага і пастановы СПА СССР за 6 чэрвеня 1932 г. № 648, Эканамічны Савет БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць усе рэспубліканскія ведамствы і цэнтральныя ўстановы БССР устанавіць бягучую пэрыядычную справаздачнасьць аб колькасьці працаўнікоў і фондах заработнай платы па ўсёй сыстэме падпарадкаваных ім прадпрыемстваў і ўстаноў.

По прамысловым, будаўнічым, транспартным прадпрыемствам і па саўгасам справаздачнасьць складаецца штомесячна, а па астатнім галінам пакварта́льна.

Справаздачнасьць павінна ахапляць увесь пэрсанал прадпрыемстваў і ўстаноў, прычым па прамысловым, будаўнічым, сельскагаспадарчым прадпрыемствам ён даецца з разьмеркаваньнем па групам працаўнікоў, а па астатнім прадпрыемствам і ўстановам іншых галін па спэцыяльным формам Кіраўніцтва народна-гаспадарчага вучоту БССР, прызначаным для прадпрыемстваў і устаноў даных галін.

Усе наркаматы і цэнтральныя ўстановы абавязаны забясьпечыць складаньне пэрыядычнай зводкі і паданьне органам Кіраўніцтва народна-гаспадарчага вучоту поўных зьвестак аб колькасьці працуючых і выплачаных ім фандоў заработнай платы.

Абавязаць усе ведамствы і ўстановы, пад адказнасьць іх кіраўнікоў, забясьпечыць не пазьней чым праз месяц пасьля сканчэньня справаздачнага кварталу паданьне Кіраўніцтву народна-гаспадарчага вучоту БССР зводкі па ўсяму ведамству ў цэлым.

Зводкі павінны складацца па аб'яднаньням у галоўнейшым разрэзеў у адпаведнасьці з наменклатурай галін, устаноўленых інструкцыяй Кіраўніцтва народна-гаспадарчага вучоту БССР.

2. Абавязаць усе ведамствы і арганізацыі пры аднясеньні выдатковых артыкулаў у плянуемыя фанды заработнай платы і ў справаздачнасьці аб выплаце заработнай платы, кіравацца адзінай наменклатурай артыкулаў выдаткаваньня заработнай платы, устаноўленай інструкцыяй Кіраўніцтва народна-гаспадарчага вучоту БССР.

3. Абавязаць усе прадпрыемствы і аб'яднаньні ў плацежныя дакументы, якія падаюцца ў філіалы Дзяржбанку для атрыманьня заработнай платы, уключыць усе выдаткі, якія інструкцыяй Кіраўніцтва народна-гаспадарчага вучоту БССР аднесены да фондаў заработнай платы.

4. Абавязаць Беларускую Кантору Дзяржбанку ўстанавіць сыстэматычны, апэрацыйны вучот выплачаных фондаў заработнай платы, адлучыўшы ў гэтым вучоце заработную плату рабочых і служачых ад усіх іншых выплат (пэнсіі), стыпэндыі, аплата саматужнікаў і г. д.) у парадку, устаноўленым інструкцыяй Кіраўніцтва народна-гаспадарчага вучоту БССР.

5. Паказаны ў п. 1 гэтай пастановы парадак увесьці пачынаючы з 3-га кварталу і забясьпечыць атрыманьне зводак за I і II-гі кварталы 1932 г.

6. Абавязаць Кіраўніцтва народна-гаспадарчага вучоту БССР на працягу 2-х дэкад выдаць спэцыяльную інструкцыю па пытаньнях, паказаных ў п. п. 1-м, 2, 3 і 4 гэтай пастановы.

Абавязаць усе рэспубліканскія ведамствы і ўстановы кіравацца гэтай інструкцыяй.

7. Ведамствы і ўстановы, якія маюць усесаюзныя цэнтры, абавязаны даваць памянёныя справаздачы па праграме іх сыстэмы ў адпаведнасьці свайго саюзнага цэнтра на падставе інструкцыі Цэнтральнага Кіраўніцтва народна-гаспадарчага вучоту СССР.

8. Устанавіць сталы кантроль за сваечасовым выкананьнем гэтай пастановы ўсімі рэспубліканскімі наркаматамі і ўстановамі, а таксама ўстановамі і прадпрыемствамі па тэрыторыі БССР, якія знаходзяцца ў веданьні саюзных органаў.

9. Абавязаць НК Фінансаў і Беларускую Кантору Дзяржбанку не адпускаць сродкаў тым ведамствам, установам і прадпрыемствам, якія не падаюць у вызначаныя тэрміны справаздачнасьць па вучоту колькасьці рабочых і заработнай платы.

10. Абавязаць Кіраўніцтва народна-гаспадарчага вучоту БССР падаваць НК Фінансаў і Беларускай Канторы Дзяржбанку кожны квартал сьпіс ведамстваў, установ і прадпрыемстваў, якія не падаюць своечасова справаздачнасьць па квартальнаму вучоту колькасьці рабочых і заработнай платы.

11. Прапанаваць усім ведамствам на працягу 2-х дэкад падаць ў Дзяржплян удасканалены плянавы фонд заработнай платы на 2-е паўгодзьдзе 1932 г. (з разьбіўкай яго на кварталы) па ўсіх прадпрыемствах і ўстановах ім падпарадкаваных (вытворчым, абслугоўваючым, кіруючым і г. д.) і забясьпечыць ў далейшым аднача сова з паданьнем Дзяржпляну вытворчых квартальных плянаў паданьне і плянаў па заработнай плаце і спуск зацьверджаных фондаў заработнай платы на прадпрыемствы аднача сова з спускам агульнага квартальнага прамфінпляну.

12. Абавязаць Дзяржплян на працягу дэкады выдаць інструкцыю аб парадку ўдасканаленьня плянавых фандоў заработнай платы.

13. Устанавіць, што пры паданьні ў Дзяржбанк касавых плянаў на першы месяц кварталу, у выпадку неатрыманьня прадпрыемствамі і ўстановамі зацьверджаных плянавых фондаў, выдаткі на заработную плату, якія паказваюцца ў касавых плянах, павінны вылічацца на падставе іх праектыровак па фонду заработнай платы.

На другі і трэці месяцы кварталу выдаткі на заработную плату ўключаюцца ў касавы плян у адпаведнасьці з спушчанымі ведамствамі і аб'яднаньнямі прадпрыемствам і ўстановам плянавымі фондамі заработнай платы.

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР **М. Галадзед.**

Кіраўнік Спраў СНК і Эканомсавету БССР **С. Кандыбовіч.**

## ПАСТАНОВА № 423

## Савету Народных Камісараў БССР

*Менск, 13 жніўня 1932 г.*

### Пра палепшаньне справы народна-гаспадарчага вучоту.

Ператварэньне вучоту ў сапраўдную зброю плянаваньня і праверкі выкананьня патрабуе карэннага палепшаньня пастаноўкі народна-гаспадарчага вучоту. Народна-гаспадарчы вучот набывае асабліва важнае значэньне зараз у зьвязку з тымі грандыёзнымі задачамі, якія пастаўлены партыяй і ўрадам ў другой пяцігодцы—пяцігодцы пабудовы бясклясавай сацыялістычнай грамады.

Адзначаючы некаторае палепшаньне пастаноўкі народна-гаспадарчага вучоту, Савет Народных Камісараў БССР лічыць аднак, што вучотна-статыстычная справа ў Кіраўніцтве народна-гаспадарчага ву-

чоту і асабліва ў народных камісарыятах і ўстановах БССР, а таксама і раёнах знаходзіцца яшчэ ў зусім нездавальняючым становішчы.

У некаторых народных камісарыятах (НКСнабжэньня, НКЗемляробства, Упаўнаваж. НКЛясной прамысловасьці і інш.), не наладжана праца ў сэктарох вучоту і справаздачнасьці і гэтыя сэктары неўкомплектаваны адпаведнымі працаўнікамі, а ў некаторых народных камісарыятах (НКАховы Здароўя) зусім не арганізаваны гэтыя сэктары. У выніку слабай пастаноўкі вучотнай работы наглядаюцца выпадкі „очковтирательства", паданьне неправераных зьвестак, парушэньне ўстаноўленых тэрмінаў для паданьня гадавых, квартадьных і месячных справаздач і г. д.

Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Ухваліць зводны плян вучотна-статыстычных работ 1932 г зьвярнуўшы асаблівую ўвагу пры яго выкананьні на:

а) выкананьне работ па распрацоўцы матар'ялаў першай пяцігодкі;

б) пастаноўку зводна-бягучага вучоту;

в) належнае правядзеньне перапісаў прамысловага абсталяваньня, гандлёвых кадраў і сеці, камунальнай гаспадаркі і падрыхтоўкі да перапісу насельніцтва і профскладу рабочых;

г) своечасовае апублікаваньне вучотна-статыстычных матар'ялаў —у мэтах папулярызацыі сацбудаўніцтва;

д) уніфікацыю і спрашчэньне пярвічнай дакумэнтацыі ў паасобных вядучых прадпрыемствах БССР;

е) рашучую барацьбу за спыненьне статыстычнага патоку, не дапускаючы запатрабаваньня форм і зьвестак справаздачнасьці звыш устаноўленых органамі наргасвучоту.

Абавязаць Кіраўніцтва народна-гаспадарчага вучоту наладзіць сыстэматычны кантроль за выкананьнем зводнага пляну работ у ведамствах.

Прапанаваць Кіраўніцтву народна-гаспадарчага вучоту адпаведна перабудаваць апарат.

2. Прапанаваць народным камісарыятам і цэнтральным установам узмацніць кіраваньне справай вучоту праз канцэнтрацыю ў сэктарох вучоту ўсіх відаў вучоту і справаздачнасьці і наладжаньне ў іх працы і ўкамплектаваньне гэтых сэктароў адпаведнымі працаўнікамі. Гэтымі сэктарамі павінны кіраваць член калегіі наркамата ці намесьнік кіраўніка цэнтральнай установы.

Прапанаваць Кіраўніцтву народна-гаспадарчага вучоту забясьпечыць нагляд і дапамогу народным камісарыятам і цэнтральным установам у справе належнай пастаноўкі працы ў памянёных сэктарох.

3. Адзначаючы, што рад раенных выканаўчых камітэтаў (Асьвейскі, Бабруйскі, Гарадоцкі, Капыльскі, Чырвонаслабодзкі) не арганізавалі інспэктур народна-гаспадарчага вучоту, прапанаваць гэтым раённым выканаўчым камітэтам неадкладна арганізаваць памянёныя інспэктуры.

Абавязаць раённыя выканаўчыя камітэты паставіць ў цэнтры сваёй увагі працу па вучоту ўраджайнасьці, забясьпечыўшы сваечасовае атрыманьне і прысылку вынікаў гэтага вучоту.

4. Абавязаць Кіраўніцтва народна-гаспадарчага вучоту і адпаведныя ўстановы і будаўн. арганіз. (Белжылсаюз, Белкоопсаюз, НК Фінансаў і інш.), забясьпечыць упарадкаваньне вучотна-статыстычных работ у галіне будаўніцтва, савецкага гандлю жыльлёвай, камунальнай гаспадаркі і фінансаў, узмацніўшы кіраўніцтва вучотнай справай у гэтых установах.

5. Прапанаваць Кіраўніцтву народна-гаспадарчага вучоту БССР і ўсім наркаматам і ведамствам зьвярнуць асаблівую ўвагу на наладжаньне вучоту па якасных паказчыках (сабекошт і вытворчасьць працы), ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі, сыстэматычна асьвятляючы выкананьне плянаў па якасным паказчыкам.

6. Абавязаць Кіраўніцтва народна-гаспадарчага вучоту БССР максымальна цэнтралізаваць і ўзмацніць мэтадалёгічнае і арганізацыйнае кіраўніцтва справай вучоту, у адпаведнасьці з зацьверджанымі палажэньнямі аб органах народна-гаспадарчага вучоту, прапанаваўшы адначасова ўсім наркаматам і цэнтральным установам БССР узмацніць дысцыпліну ва ўсіх зьвеньнях вучотнай работы.

За парушэньне вучотнай дысцыпліны прыцягваць вінаватых да суровай адказнасьці.

7. Прапанаваць Кіраўніцтву народна-гаспадарчага вучоту БССР сыстэматызыраваць тэрмінова распрацоўку бягучых вучотна-статыстычных матар'ялаў і шырока папулярызаваць ход выкананьня плянаў праз газэты і шляхам выданьня адпаведнай пэрыядычнай і неперыядычнай літаратуры.

8. Лічыць патрэбным пашырыць працу па мэханізацыі вучоту, узмацніць фабрыку мэханізаванага вучоту, павялічыць колькасьць вылічальных машын, пашырыўшы абслугоўваньне фабрыкаю мэханізаванага вучоту наркаматаў і ведамстваў. Адначасова даручыць Кіраўніцтву народна-гаспадарчага вучоту БССР праверыць скарыстаньне вылічальных машын у ўстановах з мэтай перараразьмеркаваньня іх і больш мэтазгоднага скарыстаньня.

9. Даручыць Дзяржпляну і КНГВ БССР забясьпечыць падрыхтоўку вучотных кадраў у Плянавым Інстытуце БССР.

Плян падрыхтоўкі вучотных кадраў—ведамствам узгадніць з КНГВ. Разьмеркаваньне вучотных кадраў павінна ўзгадняцца з Кіраўніцтвам народна-гаспадарчага вучоту.

10. Прапанаваць Народнаму Камісарыяту Працы, пад асабістую адказнасьць т. Баскіна, забясьпечыць поўны зварот усіх супрацпўнікоў б. ЦСУ у органы народна-гаспадарчага вучоту згодна пастановы СНК Саюза за 21 лютага 1932 г. „Пра рэгістрацыю і зварот у органы Цэнтральнага Кіраўніцтва Народна-гаспадарчага вучоту Саюзу ССР працоўнікаў статыстыкі" (З. З. СССР 1932 г. № 15, арт. 84).

11. Адзначаючы, што сыстэма Дзяржбанку недастаткова скарыстоўвае ўсе сродкі кантролю рублём у мэтах сваечасовага атрыманьня справаздач, іншых вучотных даных і пастаноўкі вучоту на належную

вышыню, абавязаць Бел. Кантору Дзяржбанку і іншыя банкі рашуча ажыцьцяўляць усе дадзеныя правы для сапраўднага наладжваньня справаздачнасьці як важнейшага сродку ажыцьцяўленьня гаспадарчага разрахунку.

12. Прапанаваць Кіраўніцтву народна-гаспадарчага вучоту БССР разам з профсаюзнымі арганізацыямі разгарнуць працу для прыцягненьня мас да вучотнай справы ў напрамку: а) максымальнага скарыстаньня ініцыятывы і актыўнасьці працоўных ў справе пастаноўкі пярвічнага вучоту і скарыстаньня вучоту ў кожным прадпрыемстве, будоўлі, калгасе і інш.; б) шырокай папулярызацыі праз вучот посьпехаў сацыялістычнага будаўніцтва, папулярызуючы і ставячы на абгаварэньне шырокіх мас вынікі народна-гаспадарчага вучоту ў цэлым і па паасобных вучастках.

Старшыня Савету Народных
Камісараў БССР **М. Галадзед.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў
і Эканамічнага Савету БССР **С. Кандыбовіч.**

# ПАСТАНОВА № 76

## Камісіі Выкананьня пры СНК БССР

*Менск, 20 кастрычніка 1932 г.*

### Пра становішча вучоту і справаздачнасьці на будаўніцтве.

Камісія Выкананьня пры СНК БССР устанаўляе, што пастанова ЭКАСА БССР за 23 ліпеня г. г. № 153 „Пра ўпарадкаваньне вучоту і справаздачнасьці на будаўніцтве“ выконваецца зусім нездавальняюча:

а) пры некаторым палепшаньні работы па прадстаўленьню штомесячных аглядаў па Белбудаб'яднаньню і Менбуду, нездавальняюча выконвае працу Белбудкантора і асабліва Белкамунбуд, які да гэтага часу ня склаў ніводнага кан'юнктурнага агляда аб ходзе будаўніцтва;

б) нягледзячы на своечасовае забясьпечаньне ўсіх ведамстваў дастатковаю колькасьцю асноўных фармуляраў для ўвядзеньня новай сыстэмы вучоту, няма ніякага зруху ў справе ўнядрэньня новых форм вучоту і справаздачнасьці, з прычыны чаго затрымліваецца складаньне штомесячнага кан'юнктурнага агляду па будаўніцтву і атрыманьне неабходных натуральных і фінансавых паказчыкаў аб ходзе выкананьня пляну будаўніцтва;

в) будаўнічыя арганізацыі не ўдзялілі ўвагі справе ўкамплектаваньня работнікамі вучотных ячэек як у цэнтральным апараце, так і на будаўніцтве і не ўжылі захадаў да падрыхтоўкі новых вучотных кадраў.

Камісія Выкананьня пры СНК БССР пастанаўляе:

1. Абавязаць кіраўнікоў будаўнічых арганізацый т.т. Васэрмана (Белбудаб'яднаньне), Крылова (Менбуд), Кандакова (Белбудканторы), Бабкіна (Белкамунбуд) пад іх асабістую адказнасьць безадкладна ўвесьці вучот на будаўніцтве па новай сыстэме, распрацаванай ЦКНГВ СССР з такім разьлікам, каб забясьпечыць атрыманьне неабходных зьвестак пачынаючы з кастрычніка месяца г. г.

2. Абавязаць кіраўнікоў усіх бударганізацый і начальнікаў будаўніцтва на працягу дэкады выканаць пастанову ЭКАНА за 23-VII г. г. пра вылучэньне на будаўніцтвах тэхнічна-пісьменных асоб, адказных за становішча вучоту на пабудовах і сваечасовае прадстаўленьне штомесячных і гадавых справаздач у Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Вучоту БССР і аб выкананьні гэтай пастановы паведаміць Камісіі Выкананьня не пазьней 5 лістапада г. г.

3. Прапанаваць усім ведамствам і арганізацыям адначасова з прадстаўленьнем у адпаведныя банкі справаздачнасьці аб ходзе будаўніцтва накіроўваць адбіткі гэтай справаздачнасьці ў Кіраўніцтва Нар.-Гаспадарчага Вучоту БССР.

Даручыць усім банкам прасачыць за выкананьнем ведамствамі і ўстановамі гэтай пастановы.

4. Даручыць Кіраўніцтву Народна-Гаспадарчага Вучоту БССР не пазьней 20 лістапада паведаміць Камісіі Выкананьня аб выкананьні гэтай пастановы і рэальных выніках, дасягнутых у галіне ўпарадкаваньня вучоту і справаздачнасьці на будаўніцтве.

Нам. старшыні Камісіі Выкананьня пры
СНК БССР **І. Лычоў.**

Сакратар Камісіі Выкананьня пры
СНК БССР **Я. Элькін.**

## УСІМ ВЕДАМСТВАМ САЮЗА ССР. УСІМ КНГВ САЮЗНЫХ РЭСПУБЛІК

У сувязі з маючыміся імкненьнямі памылковга тлумачэньня пастановы СНК СССР ад 29/IX-1932 г. **„Аб правах і абавязках галоўных і старэйшых бухгальтароў“** асабліва ў напрамку арганізацыйнай перабудовы вучотных органаў, Цэнтральнае Кіраўніцтва Наргасвучоту Саюзу ССР паведамляе, што даная пастанова СНК СССР атнюдзь ня можа разглядвацца як адмаўленьне ад устаноўкі на адзіную сыстэму вучота.

Урад прызнаў неабходным вылучыць бухгальтарскі вучот у самастойную адзінку ў гаспадарчых арганізацыях і прадпрыемствах з мэтаю ўзмацніць цэннасны вучот і пасіліць яго кантралюючую ролю ў справе ўзмацненьня фінансавай і бюджэтнай дысцыпліны і гаспадарчага разрахунку.

Пры гэтым рашэньні цалкам захоўваецца ўстаноўка на адзіны пярвічны дакумант, які забясьпечвае даныя для ўсіх відаў вучоту, захоўваецца ўстаноўка на адзіную схэму вучотнага дакуманту абарота

ў прадпрыемстве, захоўваецца абавязковае ўзгадненьне і ўвязка мэтадалёгічных дырэктыў і вучотных форм па ўсіх відах вучоту.

Менавіта таму прызнана неабходным абмежавацца вылучэньнем бухгальтэрыі з агульных органаў вучоту толькі ў прадпрыемствах і гаспадарчых арганізацыях, **якія знаходзяцца на гаспадарчым разрахунку.**

У Наркаматах, Галоўных Кіраўніцтвах і інш. арганізацыях, якія знаходзяцца на дзяржбюджэце застаюцца адзіныя сэктары вучоту і статыстыкі, як адзіныя цэнтры, кіруючыя ўсімі відамі вучоту, прычым Кіраўніцтва наркаматамі па пытаньням бухгальтарскага вучоту захавана цалкам за ЦКНГВ СССР.

У адпаведнасьці з паказаным пры ажыцьцяўленьні перабудовы органаў вучоту і статыстыкі ў сувязі з пастановай СНК СССР ад 29|IX-32 г. ЦКНГВ СССР прапануе кіравацца наступнымі ўказаньнямі:

1. Бухгальтэрыя вылучаецца з агульных органаў вучоту толькі ў прадпрыемствах і тых арганізацыях, якія знаходзяцца на гаспадарчым разрахунку. У тых-жа арганізацыях, установах і ведамствах, якія знаходзяцца на дзяржбюджэце застаюцца адзіныя органы вучоту і статыстыкі, у складзе каторых застаецца бухгальтэрыя ў якасьці спэцыяльнай групы, альбо аддзелу ўнутры адзінага сэктара вучоту і статыстыкі.

2. У тых арганізацыях і прадпрыемствах, дзе бухгальтэрыя вылучаецца з агульных органаў вучоту ў самастойныя сэктары, побач з бухгальтэрыямі захоўваюцца самастойныя сэктары вучоту і статыстыкі, якія аб'ядноўваюць ўсе віды вучоту, акрамя бухгальтарскага, як та: статыстыку, кан'юнктуру, апэрацыйна-тэхнічны вучот (вучот выкарыстаньня абсталяваньня, браку і г. д.) вучот і аналіз якасных паказальнікаў, пытаньні публікацыі вучотных матар'ялаў (акрамя публікацыі бухгальтарскіх балянсаў).

Уключэньне гэтых відаў вучотнай работы (асабліва статыстыкі і кан'юнктуры) у склад плянавых, фінансавых і інш. кіраўніцтв, альбо аддзелаў ні ў якім выразе не дапушчаецца.

У тых дробных прадпрыемствах і арганізацыях, дзе пасьля вылучэньня бухгальтэрыі застаецца вельмі нязначная колькасьць вучотнай работы і дзе яўна немэтазгодна арганізоўваць самастойны аддзел вучоту і статыстыкі, неабходна далучыць гэтыя вучотныя функцыі да бухгальтэрыі, недапускаючы, аднак, іх уключэньня ў склад апэрацыйных альбо плянавых органаў.

3. У Наркаматах, галоўных кіраўніцтвах і інш. дзяржбюджэтных арганізацыях, дзе бухгальтэрыя застаецца ў складзе адзіных сэктароў вучоту і статыстыкі, неабходна забясьпечыць чоткае кіраўніцтва бухгальтарскім вучотам падведамственных, гаспадарчых арганізацый. У сувязі з гэтым побач з утварэньнем унутры даных сэктароў сводкай бухгальтарскай групы, якая забясьпечвае таксама і мэтадалёгічнае кіраўніцтва бухгальтэрыямі ніжэй пералічаных органаў неабходна забясьпечыць па лініі інструктарскай групы сэктароў спэцыяльных інспэктараў і інструктараў па бухгальтарскаму вучоту.

4. У мэтах зьнішчэньня разнабоя і разрываў паміж бухгальгарскім і інш. відамі вучоту ўстанаўліваецца наступны парадак подпісі дырэктыў і прэпаданьня форм вучоту:

а) Усе без выключэньня мэтодолёгічныя і арганізацыйныя дырэктывы Наркамата альбо галоўнага Кіраўніцтва па пытаньням вучоту павінны абавязкова мець подпіс Кіраўніка сэктару вучоту і статыстыкі і Кіраўніка адпаведнай групай (бухгальтарскай, статыстычнай і г. д.).

Прэпаданьне такіх дырэктыў, указаньняў і форм вучоту самастойна, якой ліба асобнай групай сэктару вучоту і статыстыкі недапушчаецца.

б) У гаспадарчых арганізацыях і прадпрыемствах, (у якіх бухгальтэрыя вылучаецца ў самастойны сэктар), усе асноўныя дырэктывы па пытаньням як бухгальтарскага вучоту, гэтак і статыстычнага і інш. відаў вучоту павінны ў абавязковым парадку ўзаемна ўзгадняцца паміж галоўным бухгальтарам і начальнікам сэктару альбо аддзелу вучоту і статыстыкі.

5. Рэкамендуецца ў буйнейшых арганізацыях і прадпрыемствах утвараць сталыя мэтадалёгічныя нарады па вучоту ў складзе работнікаў сэктароў, альбо аддзелаў вучоту і статыстыкі і галоўных бухгальтароў з прыцягненьнем работнікаў плянавых і апэрацыйных органаў для разгляду асноўных форм і мэтадалёгічных дырэктыў па кожнаму віду вучоту. Асноўнай задачай такіх нарад зьяўляецца забесьпячэньне максымальнай узгадненнасьці ўсіх відаў вучоту, зьнішчэньня працівары эчнасці, дубліраваньня і наогул ізлішняй вучотнай работы.

6. Кіраўніцтва работай па пярвічнаму вучоту і правядзеньне непасрэдных работ у гэтай галіне павінны ажыцьцяўляць сэктары вучота і статыстыкі. У тых-жа арганізацыях і прадпрыемствах, дзе бухгальтэрыя вылучана ў самастойны сэктар, прапрацоўка пытаньняў перабудовы пярвічнага вучоту павінна ажыцьцяўляцца сумесна двума органамі вучоту (галоўнай бухгальтэрыяй і сэатарам вучоту і статыстыкі), якія змогуць забясьпечыць комплексны падыход да пытаньняў перабудовы пярвічнага вучоту.

7. Небходна дасканала прапрацаваць пытаньне аб узаемаадносінах галоўнай бухгальтэрыі і фінансавых сэктароў і аддзелаў у трэстах і іншых гаспадарчых арганізацыях. Застаўляючы за фінансавымі сэктарамі альбо аддзеламі фінансавае плянаваньне і апэрацыйна разьліковыя апэрацыі, неабходна увесь фінансавы вучот сканцэнтраваць у галоўнай бухгальтэрыі.

Прадугледжаны дэкрэтам ад 29|IX-32 г. парадак, па якому ўсе грашовыя дакўманты змацняюцца галоўным бухгальтарам, не павінен прывесьці да перадачы бухгальтэрыі ўсіх чыста разьліковых апэрацый выпіску рахункаў, ордэраў і г. д., гэта значыць да фактычнага зьліяньня бухгальтэрыі з фінансавымі аддзеламі.

Роля галоўнага бухгальтара, як кантралёра за ўзмацненьне фінансавай і сьметнай дысцыпліны, дыктуе неабходнасьць чотка вылучыць уласную фінансавую работу і работу вучотна-кантрольную ў галіне фінансаў і забясьпечыць тым самым галоўнаму бухгальтару

магчымасьць кантраляваць дзейнасьць фінансавага аддзелу, атнюдзь, аднак яго не падмяняючы.

Выходзячы з гэтых указаньняў ЦК НГВ СССР прапануе распрацаваць дэтальныя ўказаньні па паведамственным органам.

Па ўсіх дадатковых момантах, якія патрабуюць тлумачэньня, неабходна зварочвацца ў ЦК НГВ СССР Сэктар арганізацыі.

Нач. ЦКНГВ СССР **Асінскі.**

# Работа КНГВ і яго сыстэмы

## 1 снежня—апошні тэрмін вынікаў распрацоўкі перапісу промпрадпрыемстваў.

**Буда-Кашалёўскі, Нараўлянскі, Асіпавіцкі, Лельчыцкі, Глускі, Бярэзінскі, Кармянскі, Сіроцінскі, Прапойскі, р-ны ставяць пад пагрозай зрыву своечасовай распрацоўкі матар'ялаў.**

Вялікім недахопам у працы па вучоту прамысловасьці да апошняга часу зьяўлялась адсутнасьць больш-менш здавальняючага матар'ялу аб дробнай прамысловасьці сацыялістычнага сэктару: Буйная (цэнзавая) прамысловасьць састаіць на бягучым вучоце і аб дзейнасьці яе ў Сэктары Вучоту Прамысловасьці Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Вучоту БССР маецца досыць багаты матар'ял атрыманы як у выніку паглыбленых гадавых абсьледаваньняў, так і ў парадку бягучага кан'юнктурнага вучоту.

Не так абстаіць справа з дробнай (няцэнзавай) прамысловасьцю Апошні перапіс дробнай прамысловасьці быў праведзен у 1929-30 г. і вывучаў склад і дзейнасьць гэтых прадпрыемстваў за 1928-29 г. Пасьля гэтага перапісу на працягу апошніх год перапісы дробнай прамысловасьці не вытвараліся і спробы у працах гэтых гадоў атрымаць матар'ялы аб дробнай прамысловасьці сацыялістычнага сэктару пасьпяховых вынікаў не давалі.

Між тым, працэсы коопэраваньня і калектывізацыі зьмянілі твар дробнай прамысловасьці і вынікі перапісу дробнай прамысловасьці за 1928-29 г. ужо ня могуць ахарактэрызаваць сучасны стан дробнай прамысловасьці.

Узьнікла настойлівая патрэбнасьць у атрыманьні матар'ялаў аб становішчы дробнай прамысловасьці для скарыстаньня гэтых матар'ялаў пры складаньні пляну Народна-Гаспадарчага будаўніцтва на 2-ю пяцігодку, для складаньня кантрольных лічбаў на 1933 г. для вывучэньня выкананьня плянаў па прамысловасьці.

Зусім своечасовымі зьяўляюцца пастановы СНК СССР ад 15|VII г. г. і СНК БССР ад 4|VIII г. г. пра абавязковую агульную рэгістрацыю усіх прамысловых прадпрыемстваў Дзяржаўных, каапэрацыйных і грамадзкіх арганізацый.

Рэгістрацыя першай чаргі ахапіла ўсе прадпрыемствы сацыялістычнага сэктару незалежна ад іх вялічыні. Не падлягалі рэгістрацыі толькі прадпрыемствы мукамольнай і крупяной прамысловасьці, а таксама лесанарыхтоўкі, рыбалоўства і паляваньне. Гэтыя прадпрыемствы будуць рэгістравацца ў другую чаргу, прыкладна ў сьнежні г. г.

Пры рэгістрацыі, прадпрыемствы складалі спэцыяльны блянк **„Пашпарт прадпрыемства“**. Гэты пашпарт вывучае агульныя зьвесткі ад прадпрыемства: месцазнаходжаньне, адлегласьць ад чыгункі, ад параходнай прыстані, форму падпарадкаваньня прадпрыемства, год пуска, сілавы апарат. Адначасова прадугледжана атрыманьне ў пашпарце галоўнейшых паказчыкаў дзейнасьці прадпрыдмства за 1931 г, і першае паўгодзьдзе 1932 г. рабочая сіла, кошт вырабаў, аснаўныя фонды.

Праграма распрацоўкі пашпартоў прадугледжвае атрыманьне вытвараючага і сацыяльнага складу прамысловасьці і аснаўных паказчыкаў дзейнасьці прамысловасьці па вытворчым і сацыяльным групам.

Па пастанове Калегіі Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Вучоту БССР аснаўная распрацоўка праводзіцца ў раёным разрэзе, што надае вынікам асаблівую каштоўнасьць.

Правядзеньне гэтай працы сустрэла шмат цяжкасьцяй. Са значным спазьненьнем вытвараецца працэс рэгістрацыі. Рэгістрацыя па БССР павінна была скончыцца 5-га верасьня г. г., аднак і на сеньняшні дзень маецца значная колькасьць прадпрыемстваў якая яшчэ не зарэгістравалася і пашпарта не склалі. Асабліва выдзяляецца сярод прадпрыемстваў, не прайшоўшых рэгістрацыю, прадпрыемствы калгасаў: кузьні, маслазаводы і г. д.

Якасьць значнай колькасьці атрыманых пашпартоў дрэнная і не дае магчымасьці скарыстаць дадзеныя пашпартоў без іх выпраўленьня.

**Па шэрагу раёнаў Інспэктара Наргасвучоту паказалі вузорныя прыклады арганізацыі працы ца рэгістрацыі.**

**За пасьпяховае правядзеньне рэгістрацыі прэміяваны інспэктары па Рэчыцкаму, Старобінскаму, Стара-Дарожскаму, Бешанковіцкаму, Асьвейскаму і Жыткавіцкаму раёнам.**

Побач з гэтым інспэктура Наргасвучоту шэрагу раёнаў недаацэніла ўсю важнасьць правядзеньня рэгістрацыі і ахопа яго дробных прадпрыемстваў, у прыватнасьці прадпрыемстваў пры калгасах і саўгасах. Гэтым часткова і тлумачыцца такая зацяжка ў рэгістрацыі дробных прадпрыемстваў. **Найбольш адстаючымі раёнамі зьяўляюцца: Буда-Кашаўлёўскі Нараўлянскі, Асіпавіцкі, Лельчыцкі, Глускі, Бярэзінскі. Кармянскі, Сіроцінскі, Прапойскі.**

Перашкоды ў правядзеньні рэгістрацыі адбіваюцца на своечасовасьці атрыманьня вынікаў распрацоўкі. **Тэрмін 1-XII-г. г. вызначаны для атрыманьня вынікаў распрацоўкі, шэрагам раёнаў ставіцца пад пагрозай зрыву з прычыны недасылкі ўсіх пашпартоў па раёну.**

З справы правядзеньня рэгістрацыі промпрадпрыемстваў промсэктар Кір. Нар. Гасп. Вучоту БССР і Райінспэктуры павінны зрабіць адпаведныя вынікі аб неабходнасьці больш шчыльнай жывой сувязі паміж сэктарам і раінспэктурай у мэтах інструктажа, дапамогі і ўзаемнай інфармацыі ў праводзімых працах па вучоту прамысловасьці.

**Фрыдлянд**

## Перапіс прамабсталяваньня першай чаргі

Пастановай **СПА ад 29 лістапада 1931 г.**, урад абавязаў Кіраўніцтва Наргасвучоту вытварыць Уеесаюзны перапіс абсталяваньня. У першую чаргу—перапіс абсталяваньня машынабудаўнічай, электратэхнічнай і мэталяапрацоўчай галін прамысловасьці і народнай гаспадаркі, а таксама абсталяваньне ДЭПО і чыгуначных майстэрняў НКШЗ, майстэрняў саўгасаў і МТС.

Перапіс вытвараецца ў мэтах вывучэньня магутнасьці складу і стану абсталяваньня, выяўленьня рэзэрваў вытворчай магутнасьці абсталяваньня, вывучэньня умоў выкарыстаньня абсталяваньня, вывучэньня камбінаваньня і спэцыялізацыі вытворчасьці ў сувязі з узроўнем арганізацыі тэхнолёгічнага працэсу, вывучэньня разьмяшчэньня абсталяваньня па галінам прамысловасьці і народнай гаспадаркі, пабудова правізорнага балянсу абсталяваньня.

Вынікі перапісу абсталяваньня прамысловасьці будуць выкарыстаны органамі плянаваньня і рэгуляваньня народнай гаспадаркі. Матар'ялы аб складзе і становішчы і ўмовах выкарыстаньня абсталяваньня узброяць органы плянаваньня і рэгуляваньня народнай гаспадаркі новай зброяй па выкарыстаньню унутраных рэсурсаў і зробяць пляны яшчэ больш тэхнічна абгрунтаванымі. Акрамя гэтага перапіс абсталяваньня зьяўляецца базай для пастаноўкі бягучага вучоту работы абсталяваньня.

Як статыстычная апэрацыя, гэты перапіс выключны па свайму масштабу і складанасьці праграмы.

Перапіс быў пачаты 1|IV-32 г. а пярвічны матар'ял для папярэдніх вынікаў (форма „Д") быў дасланы ЦКНГВ своечасова 1|VI.

Па БССР перапісам першай чаргі было ахоплена 134 прадпрыемстваў. Паўнаце вучота па абсталяваньню па БССР—99 **проц.**

Выкананьне гэтакай адказнай апэрацыі ў тэрмін (КНГВ БССР праміявана цэнтр. кір. НГВ Саюза), тлумачыцца значнай увагай выкліканай гэтым перапісам у зацікаўленых ведамствах і прадпрыемствах і той дапамогаю якую аказалі у правядзеньні перапісу абсталяваньня першай чаргі як прамысловыя аб'яднаньні, прадпрыемства



гэтак і асобныя работнікі. Трэба асабліва адзначыць вельмі каштоўную дапамогу аказаную галоўным **інжэнерам Мэталяаб'яднаньня тав. Сульскім Д. Х.** За узорна праведзеную работу перапісу абсталяваньня прэміявана **14 заводаў**

Першую прэмію атрымалі завод **імя Варашылава.** Кіраўнік перапісу тав. **Веліцкі**—другую Вагонарэмонтны завод **„Полымя Рэволюцыі“** (Менск) Кіраўнік тав. **Залуцкі.**

Акрамя таго Ц Кіраўніцтва НГВучоту Саюза прэміяваў машынабудаўнічы завод **„Камунар“** (Менск).

Папярэдняя распрацоўка перапісу па форме „Д“ вытваралася у ЦК НГВ СССР і была скончана 1 жніўня. Маюцца ўжо вынікі па 6 групам абсталяваньня па наступнай праграме:

Відавы склад абсталяваньня ў галінах народнай гаспадаркі.

Відавы склад непрацуючага абсталяваньня з разьмеркаваньнем па прычынах бязьдзейнасьці.

Разьмеркаваньне груп абсталяваньня па ўзросту, паходжаньню, каштоўнасьці, магутнасьці, зьменнасьці і становішчы.

Да паглыбленай распрацоўкі падрыхтавана ужо карта на інструмэнтальную гаспадарку, якая дасьць нам разьмеркаваньне вытворчасьці асобных відаў інструмантаў і агульнае спажываньне інструманта ў асобных галінах прамысловасьці.

Падрыхтаваны таксама цэхавы фармуляр—форма „Д“ і фармуляр на прадпрыемства—форма „В“.

У бліжэйшы час прыступім да падрыхтоўкі паглыбленай распрацоўкі асноўнага інструмэнтарыя перапісу формы „А“—фармуляр на асобную машыну.

**Айзэнберг.**

## ВЫКАНАЦЬ ПАСТАНОВУ УРАДУ

**НКА сьветы, НК Аховы Здароў'я, НКСнаб ігнаруюць Дырэктыву ураду аб арганізацыі вучоту наймовага пэрсаналу і фондаў зарпалты.**

Аднэй з неабходнейшай умовы для плянаваньня усей народнай гаспадаркі зьяўляецца вычэрпальны вучот колькасьці работнікаў і сум заработнай платы па усім галінам народнай гаспадаркі.

Шэраг галін народнай гаспадаркі (прамысловасьць, будаўніцтва, саўгасы) гэты вучот часткова ажыцьцяўляюць штомесячнай справаздачнасьцю па карткам № 1, 2, 4, 5, 7 і 8,

Па некаторых галінах (**НККамгас. Нарсувязі, Прадпр. грамадзк. харчаваньня**) колькасьць рабочых і заработная плата ўлічваюцца па спэцыяльных формах ведамственнай справаздачнасьці,

Застаецца яшчэ шэраг галін (**гандл. прадпр. Сац. культурные установы, Установы па кіраўніцтву і абслугоўв. Народн. Гаспадаркі**), у якіх занята значная колькасьць работнікаў, але апошнія да гэтага часу ня маюць дадзеных аб колькасьці занятага персаналу і аб выплачаных фондах зарплаты.

Для ахопу усіх галін працы з вучотам колькасьці і выдатканьні фондаў зарплаты, Сэктарам Вучоту Працы КНГВ у выкананьні пастановы СПА ад 6|VI і ЭКАНА БССР ад 22|VII уводзіцца ва ўсіх Наркаматах і Цэнтральных установах (незалежна ад форм падпарадкаваньня) па усей падпарадкаванай ім сыстэме, кароткая пэрыядычная сыстэма пакварталънага вучоту колькасьці пэрсаналу і выплачанай ім зарплаты.

Асноўная установка гэтага вучоту атрымаць вычарпальныя, па ахопу усяго кругу вучытываемых установ, дадзеные, аб колькасьці і фондаў зарплаты ўсяго пэрсаналу. Гэты матар'ял павінен быць скарыстаны у мэтах праверкі выкананьня пляну.

У 1932 г. вучот павінен быць праведзен на наступныя даты: на 1|IV, на 1|VII, 1|X і 1|I-33 г.

Ня гледзячы на важнасьць гэтага вучоту, шэраг наркаматаў і Цэнтральных Установ **НКАховы Здар., Наркомасьветы, НКЛес, НК Снаб, Арг. Аддзел ЦВК)** да гэтага часу ня вылучылі адказнага за гэту работу, не арганізавалі гэты вучот ва усей падпарадкаванай ім сыстэме).

Атрыманая справаздачнасьць ад ведамств (НКЦяж, НКЛегпром, БКС) аб колькасьці пэрсаналу і фондаў зарплаты ня вычэрпальна і не дае магчымасьці меркаваць аб ступені выкананьня пляну.

НКФінансаў і Бел. аддз. Дзяржбанку ня выконваюць пастановы ЭКАНА аб ужываньні мер узьдзейнічаньня ў адносіне тых установ, якія памяненую справаздачнасьць не прадстаўляюць у вызначаны тэрмін.

Гэтакі стан вучоту колькасьці наймовага пэрсаналу і выдаткаваньня фондаў зарплаты, у памяненых ведамствах, зрывае выкананьне важнейшай пастановы Ураду.

Нельга не адзначыць асаблівую нядбайнасьць да гэтага вучоту з боку **НКАсьветы, НКАховы Здароўя і НКСнабу, якія нават** і пасьля спэцыяльнага лісту старшыні Камісіі Выкананьня ня ўжылі канкрэтных мерапрыемстваў па забясьпечаньні арганізацыі вучоту колькасьці пэрсоналу і фондаў зарплаты па усей падпарадкаванай ім сыстэме.

Такім нядбайным адносінам да важнейшых пастаноў Ураду—патрэбна палажыць канец.

**Волпаў.**

## Наладзіць правільны вучот зарплаты

У мэтах нагляданьня за ажыцьцяўленьнем аднэй з 6-ці умоў тав. **Сталіна**—зьнішчэньне ўраўнілаўкі ў зарплаце пэрсаналу прамысловых прадпрыемств, Сэктарам Вучоту Працы Кір. Нар, Гасп. Вучоту праводзіцца па выбарачнаму кругу прамысловых прадпрыемстваў вучот зарплаты па прафэсіях і разрадах.

Вучот гэты праводзіцца ў прадпрыемствах НК Цяжпрому, НК Легпрому з колькасьцю рабочых 250 і звыш; прадпрыемств НК Снаба —100 ч. і звыш.

Стат-інструментарый—Форма „Дадатак да карткі № 2“.

Гэтым вучотам ставім сваёй мэтай вывучэньне:

а) Разьмеру зарплаты рабочых і вучняў і прырабаткаў рабочых прадпрыемств у сувязі з разьмерам тарыфных ставак, зьмен у разьмеры аплаты па асноўных прафэсіях рабочых у сувязі з прымяненьнем розных сыстэм аплаты працы, а таксама—разьмераў зарплаты некаторых асноўных прафэсій інжынэрна-тэхнічнага і вучотна-статыстычнага пэрсаналу.

б) Разьмеркаваньне рабочых і вучняў па разрадам тарыфнай сеткі.

в) Ступені забясьпечанасьці работнікаў прадпрыемств жылым памяшканьнем ад прадпрыемств.

г) Ступень выкананьня квартальнага пляну па асноўных паказчыках па працы ў сувязі з выкананьнем вытворчасьці праграмы.

Значным тормазам для своечасовага сканчэньня гэтага вучоту ў тэрмін зьяўляецца адсутнасьць ад раду прадпрыемств справаздачнасьці па зарплаце (дадатак да карткі № 2) і дэфэктнасьць дасланага матар'ялу, што зьяўляецца вынікам дрэннай пастаноўкі вучоту на прадпрыемствах асабліва на торпазаводах.

Аб'яднаньні (у большасьці) якіх пытаньне зарплаты ў падпарадкаваных ім прадпрыемствах павінна цікавіць у першую чаргу, не прыймаюць захадаў па ўкараненьню правільнага вучоту **прапрацаванага часу па сыстэмах аплаты працы.**

Вучотна-статыстычны пэрсанал асобных прадпрыемств нядбайна адносіцца да налажываньня вучоту і да запаўненьня стат. картак (**З-д Варашылава, мэбл. ф-ка „Халтурына“**).

На жаль ня ўсе Інспэктуры Нар. Гасп. Вучоту ўдзяляюць дастатковую ўвагу праверцы атрыманнага матар'ялу ад прадпрыемстваў і выпраўленьні дэфэктаў як гэта робяць **Віцебская і Гомельская** Інспэктуры, а абмяжоўваюцца зьбіраньнем і дасылкай іх у сэктар.

Асабліва трэба падцягнуцца інспэктурам **Менску, Бабруйску** і **Мозыру.**

Тэрмін паступленьня формы „Дадатак да карткі № 2“ за чэрвень і верасень даўно прайшоў.

Ужо патрэбна скончыць распрацоўку вучоту за 3 кв. Гэта абавязвае Інспэктуры, Аб'яднаньні і Наркаматы прыняць усе захады да хутчэйшага сканчэньня зьбіраньня матар'ялаў і забясьпечаньня яго высокай якасьці.

**Волпаў**

## Паскорым устанаўленьне колькасьці сельскага насельніцтва па вучоту НКФ 1932 г.

Зьмены, якія адбіліся ў насельніцтве, як па колькасьці гэтак і па складу ад 1926 г. (перапіс) на 1932 г. надзвычайна мяняюць як структуру ўсяго насельніцтва гэтак і агульную колькасьць.

Амаль усе асноўныя работы па плянаваньню ўпіраюцца ў неабходнасьць атрыманьня пэўных лічб аб насельніцтве на пазьнейшыя даты. Між тым мы і на сёньня прымушаны яшчэ карыстацца ў значнай ступені матар'ямі перапісу 1926 г. (па гарадзкому насельніцтву па вузкаму кругу паказчыкаў мы маем ітогі вучоту горнасельніцтва 1931 г.).

Зусім зразумела, што гэтыя абставіны прымушаюць нас скарыстоўваць усялякія магчымасьці (асабліва па сельскаму насельніцтву) для таго, каб забясьпечыць выкананьне асноўных работ па складаньню пляну.

Гэтым мэтам служыць і вучот сельскага насельніцтва, які праводзіцца адначасова з кампаніяй сельска-гаспадарчага абкладаньня НКФ 1932 г. (форма № 1 і 2).

У мэтах высьвятленьня прыросту ці ўбылі за апошні год па кожнаму раёну была таксама і неабходнасьць у даных па гэтаму вучоту па кожнаму населёнаму пункту ў паасобку, таму, што ва ўмовах адбыўшыхся адміністрацыйна-тэрытарыяльных зьмен гэта зьяўляецца адзіным інструмэнтарыем які задавальняе гэтым мэтам. Сьпіс гэты прадугледжан таксама і для скарыстаньня пры прадстаячым перапісу насельніцтва 1933 г.

Зусім відавочна, што усім нашым Райінспэктурам належала зьвярнуць на гэту работу самую сур'ёзную ўвагу.

На вялікі жаль, гэта праца, ня гледзячы, на меркаваньні КНГВ у скарыстаньні вынікаў яе яшчэ ў жніўні—верасьні мес., у пэрыяд вылічэньня колькасьці насельніцтва для хлеба-фуражнага балянсу яшчэ не скончана.

**Ад Бабруйскай, Б.-Кашалеўскай, Крупскай, Лёзьнянскай, Лельчыцкай, Петрыкаўскай, Рагачоўскай, Сіроцінскай, Слуцкай, Смалявіцкай, Талачынскай і Прапойскай Райінспэктур няма нават і агульнай зводкі па раёну**, якая павінна быць прадстаўлена ў Сэктар Вучоту Сельскай Гаспадаркі.

55 Райінспэктур ня гледзячы на неаднолькавы напамінак, яшчэ не прадставілі сьпісаў населеных пунктаў і нават не паведамілі аб прычынах недасылкі яго.

Неабходна ўсім Райінспэктурам прыняць тэрміновыя меры да сканчэньня гэтых работ.

**Смарадзінская**

## За добраякасны вучот базарнага гандлю

З кастрычніку м-цу па БССР пастаўлен вучот базарнага гандлю. Асноўнымі задачамі яго зьяўляюцца:

1. Характарыстыка арганізацыі базарнага гандлю.
2. Вызначэньне аб'ему і складу базарных прывозаў па важнейшых сел.-гасп. прадуктах.
3. Вучот базарных цэн (праца па рэгістрацыі базарных цэн вялася і раней).

Галоўныя прынцыпы арганізацыі вучота базарнага гандлю наступныя: Вучотам ахоплена па БССР 11 буйнейшых гарадоў. Уся праца праводзіцца праз спэцыяльную карэспандэнцкую сетку. Вучот праводзіцца штомесячна за пэрыяд з 25-га мінулага м-цу па 25-е справаздачнага м-цу.

Абсьледваньне вядзецца па аднаму галоўнейшаму базару гораду за выключэньнем гор. Менску, дзе штомесячна ўлічваецца 2 базары гораду (другі базар па г. Менску вытвараецца пачынаючы з сьнежню 1932 г.). На выбраным для вучоту базару нагляданьне вядзецца ня менш як на працягу 6-ці базарных дзён два „ажыўленых“, два „сярэдніх“ і два „слабых“. Усе зьвесткі заносяцца ў спэцыяльны блянк (форма „А“).

Вучот базарных цэн па пунктах дзе праводзіцца абсьледваньне базарнага гяндлю вядзецца 3 разы ў м-ц (штодэкадна) на 5-е, 15-е і 25-е (сьпіс пунктаў дзе праводзіцца штомесячна вучот базарнага гандлю і штодэкадная рэгістрацыя базарных цэн прыкладаецца).

Ход работы па вучоту базарнага гандлю выражаецца ў наступным:

Неабходныя матар'ялы (інструкцыі, блянкі) былі спушчаны на месцы ў першай палове верасьня м-цу. Пры гэтым штодэкадны вучот цэн быў уведзены з 15 верасьня, а самае абсьледваньне базарнага гандлю пастаўлена з кастрычніку м-цу.

Ня гледзячы на вялікі тэрмін, які мелі Гор. і Райінспэктуры для пастаноўкі абсьледваньня і правядзеньні яе ў кастрычніку, ні адна з Райінспэктур вучоту не паставіла і матар'ялу за кастрычнік не даслала. Магілеўская Райінспэктура ня гледзячы на неаднаразовыя ўказаньні з боку Сэктару Снабжэньня і Гаднддю КНГВ аб рэгістрацыі цэн, гэтага ня робіць. Гэты недахоп наглядаецца і па **Менску, Бабруйску, Барысаву, Рачыцы, Полацку, Воршы, Жлобіну.**

Паказаны недахоп значна зьніжае каштоўнасьць матар'ялаў і павінен быць у далейшым зьнішчан, дзеля чаго Райінспэктуры павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на працу па рэгістрацыі цэн і вучоту базарнага гандлю. Патрэбна значная ўвага да пытаньня арганізацыі вучоту базарнага гандлю, кантролю і крытыкі матар'ялу з боку сэктару Снабжэньня і Гандлю КНГВ.

Для палепшаньня гэтай працы і жывой сувязі з карэспандэнтамі, у канцы лістападу, Калегіяй КНГВ пастаноўлена выехаць на месцы спэцыяльнаму супрацоўніку сэктару.

**Сэктар Снабжэньня і Гандлю КНГВ**

## Перапіс скончанага і няскончанага будаўніцтва 1932 і 1933 г.

Пастановай КНГВБ ад 15|XI-32 г. Сэктару Вучоту Будаўніцтва і Камунальнай Гаспадаркі прапанавана. на працягу другой паловы сьнежня м-ца 1932 г. вытварыць перапіс скончанага і няскончанага будаўніцтва ў 1931 і 1932 г. Гэтым самым ствараецца магчымасьць

устаноўленьня фізычнага аб'ёму будаўніцтва і каштоўнасьць скончанага будаўніцтва і характарыстыку ў натуральным і цэнасным выразу нясконченага. Перапісам павінны быць ахоплены ўсе будаўнічыя работы (толькі чыстага будаўніцтва) вытвараемыя ўсімі Дзяржаўнымі ўстановамі і прадпрыемствамі, каапэрацыйнымі і ншымі арганізацыямі па ўсёй тэрыторыі БССР і прыватнымі асобамі ў буйных гарадох.

Падлягаюць перапісу будаўнічыя апэрацыі, вытвараемые ў адносіне будынкаў **(жылые дома, школы, фабрычны корпус і г. д.)**. Новая пабудова, надбудова, прыбудова, пашырэньне, перабудова і аднаўленьне калі яны павялічваюць жылую, альбо карысную плошчу.

Перапіс вытвараецца кіраўніцтвам Народна-Гаспадарчага Вучоту БССР. Пры правядзеньні самога перапісу ўсе ўстановы прадпрыемствы і прыватные асобы ў якіх маюцца будаўнічыя работы, падлягаючыя перапісу, павінны аказваць усямернае садзейнічаньне асобам вытвараемым перапіс, выконваць усе іх законные запатрабаваньні і г. д.

Што датычыцца перапісу будаўніцтва калгасаў і саўгасаў, апошні павінен вытварацца праз адпаведныя раёныя арганізацыі.

Тэрмін, парадак і формы для вытварэньня перапісу па вучоту будаўніцтва скончанага і нясконченага ў 1931 і 1932 гг. на тэрыторыі БССР устаноўлены Кіраўніцтвам Народна-Гаспадарчага Вучоту БССР.

**Крук.**

## Падвядзеньне ітогаў першай пяцігодкі па ахове здароўя праходзіць маруднымі тэмпамі.

Работа пб абсьледаваньню ўстаноў аховы здароўя для падвадзеньня ітогаў першай пяцігодкі праходзіць не зусім здавальняюча. Большасьцю раёнаў тэрміны сарваны.

Першым з раёнаў па тэрміну выкананьня і па якасьці матар'ялу зьяўляецца **Пухавіцкі**. Зусім не зьвярнулі ўвагі на работу раёны: **Лёзьнянскі, Бешанковіцкі і Лоеўскі.**

Неабходна Райінспэктурам Наргасвучоту прыняць самыя рашучыя меры для хутчэйшага сканчэньня работы, бо патрэбны паказчыкі выкананьня першай пяцігодкі, якія лягуць у аснову пабудовы другой пяцігодкі.

**Говар**

## Абсьледваньне бюджэтаў калгасьнікаў—на службу арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў

### Аб ходзе бюджэтных абсьледваньняў

У мэтах вывучэньня матар.яльнага і культурнага дабрабыту калгасьнікаў „Асноўнай апоры Савецкай улады на вёсцы", пастановай Ураду 3 ліпеня 32 г. пастаўлена праца па бюджэтнаму абсьледаваньню калгасьнікаў.

Аснаўнымі задачамі бюджэтнага абсьледаваньня зьяўляецца вывучэньне.

а) асабістага спажываньня калгасьнікамі прадуктаў харчаваньня.

б) вытворчага спажываньня (расход кармоў).

в) разьмер набыцьця промтавараў па сэктарох (дзярж., каапэр і прыватн.)

г) звароту галоўнейшых сельска-гасп. прадуктаў і жывёлы.

д) грашовага звароту прыбытку сродкаў калгасьніка.

е) працы калгасьнікаў у сваім калгасе і на баку вывучэньне гэтых пытаньняў цесна зьвязана з задачай арганізацыйна гаспадарчага ўзмацненьня калгасаў і таму зьяўляецца асабліва актуальнымі. Вынікі распрацоўкі будуць скарыстаны таксама для балянсавых работ, для вывучэньня разгортваньня савецкага і калгаснага гандлю арганізацыі працы ў калгаасах ды інш.

Абсьледаваньне вытвараецца па выбарачнаму мэтаду.

Усяго абсьледуецца 840 калгасных гаспадарак у 13 адміністрацыйных раёнах, якія ў сваю чаргу разьбіты на 24 гнёзда.

Аснаўным пярвічным матар'ялам—зьяўляецца сшытак прыбыткаў і выдаткаў, які запаўняецца штодзённа самім калгасьнікам.

У мэтах забясьпечаньня безперабойнага ходу абсьледаваньня, дапамогі калгасьнікам, якія вядуць запісы, створан інстытут гнёздавых інструктароў (адзін інструктар на 3 калгасы), які непасрэдна адказвае за стан абсьледаваньня ў сваім гняздзе.

Распрацоўка вытвараецца ў сэктары вучоту працы Кіраўніцтва ў разрэзе асобных сельска-гаспадарчых эканамічных зон у адміністрацыйных раёнах рэспублікі па групах гаспадарак і за кожны м-ц у паасобку.

Для заахвачваньня карэспандэнта бюджэтчыка ўстаноўлен спэцыяльны прэміяльны фонд.

У мэтах падвышэньня якасьці паступаючага матар'ялу і паскарэньня распрацоўкі, інструктара па вядзеньню бюджэтнага абсьледаваньня пераведзены на зьдзельна прэміяльную сыстэму аплаты працы

Тэрмін прадстаўленьня матар'ялаў у раённыя інспэктуры ўстаноўлен 12 чысла наступнага м-цу і пасьля кантролю у інспэктурах накіроўваюцца ў КНГВ (тэрмін 1 наступн. м-ца).

Аднак некаторыя раённыя інспэктуры дасылаюць матар'ял зусім недабраякасны і са значным спазьненьнем.

**(Кармянскі раён па 1 гнязду, Дзяржынскі р-н, Жыткавіцкі па 1 гнязду).** Асабліва наглядаюцца недахопы ў адносінах няпоўнага запаўненьня ў частцы адчуждзеньняў, выяўленьня грашовага выдатку і ўвязкі адных форм з другімі.

Аднымі з лепшых інспэктур па арганізацыі гэтай працы, а таксама па тэрмінам прысылкі і якасьці матар'ялу зьяўляецца р-ны **Брагінскі і Слуцкі.**

Лепшымі інструктамі па абсьледаваньню зьяўляюцца інструктары гэтых-жа раёнаў **т. Гур і т. Сьлюсарэнко.**

Матар'ял бюджэтанга абсьледаваньня за верасень знаходзіцца ў распрацоўцы і будзе скончан да 1 сьнежня г. г.

**Антонава**

## Установім штомесячную справаздачнасьць камунальных прадпрыемстваў

ЭКАНА БССР па дакладу НКГаса пра становішча камунальных прадпрыемстваў (**пастанова № 202 ад 29-IX—1932 г.**) адзначыла, што на раду з дасягненьнямі ў справе будаўніцтва камунальных прадпрыемстваў і камунальнага абслугоўваньня працоўных, маюцца і прарывы (справаздачнасьць камунальных прадпрыемстваў знаходзіцца ў надзвычайна запушчаным стане, не вядзецца барацьба за зьніжэньне сабекошту і за выкананьне колькасных і якасных паказчыкаў і інш.)

Для зьнішчэньня прарываў ЭКАНА БССР прыняла шэраг мерапрыемстваў. Сярод апошніх (мерапрыемстваў) ЭКАНА БССР абавязала НКГас і Кіраўніцтва Народна-Гаспадарчага Вучоту наладзіць вучот па прадпрыёмствах і сыстэматычны кантроль за выкананьнем імі плянаў.

Для выкананьня гэтага пункта пастановы ЭКАНА БССР Сэктар Вучоту будаўніцтва і Камунальнай Гаспадаркі устанаўлівае, **штомесячную справаздачнасьць** прадпрыемстваў камунальнага прызначэньня (**электрастанцыі, вадаправоды, трамвай, пральні, лазьні і г. д.**) буйнейшых гарадоў БССР (**Менск, Гомель, Віцебск, Магілёў, Ворша. Полацк, Мазыр, Барысаў, Рэчыца, Бабруйск**).

**Д.**

## Сураж і Копыль па баявому перабудоўваюцца

Ператварэньне вучоту ў сапраўдную зброю плянаваньня і праверкі выкананьня, патрабуе каравнога палепшаньня пастаноўкі народна-гаспадарчага вучоту.

Аднак вынікі абсьледваньня працы Прапойскай Райінспэктуры народна-гаспадарчага вучоту паказалі, што праца там ідзе па старынцы. Наглядаецца вялікая запазычанасьць па ўсім галінам народна-гаспадарчага вучоту, адсутнічае абсьледвацельская праца пастаноўкі Нар.-Гасп. Вучоту ў ведамствах і арганізацыях раёну, так сама ў с|с, не сыстэматызыруюцца даныя, характарызуючыя выкананьне народна-гаспадарчага пляну, г. з. складаньне штомесячнай кан'юнктуры, поўнасьцю адсутнічае папулярызацыя народна-гаспадарчага вучоту сярод шырокай грамадзкасьці.

Прапойская Райінспэктура гэта вузор дрэннай пастаноўкі працы, прыклад як ня трэба працаваць.

Рэзкую працілегласьць Прапойскай Райінспэктуры КНГВ прадстаўляюць **Суражская, Капыльская** і рад іншых Райінспэктур, якія па сапраўднаму змагаюцца за паляпшаньне народна-гаспадарчага вучоту, за пертварэньне яго ў сапраўдную зброю плянаваньня і праверкі выкананьня народна-гаспадарчага пляну.

Суражская і Капыльская Райінспэктуры ў выніку штодзеннай упартай працы, дабіліся амаль поўнай ліквідацыі запазычанасьці па ўсім галінам народна-гаспадарчага вучоту. Скончана рэгістрацыя промпрадпрыемств, перапіс гандлёвай сеткі і кадраў, перапіс камунальных прадпрыемств і арганізацый, пажарнай аховы, ліквідавана запазычанасьць па іншым працам народна-гаспадарчага вучоту.

Праўда і гэтыя Райінспэктуры яшчэ маюць значныя недахопы, перашкаджаючыя ім стаць кіраўнікамі ўсей вучотнай працы ў раёне —гэта недастатковая жывая сувязь з нізавымі вучотнымі ячэйкамі, недастатковая ўвага збору, аналізу і сыстэматызацыі лічбаў, характарызуючых выкананьне народна-гаспадарчага пляну, адсутнасьць праверкі пастаноўкі нар.-гасп. вучоту ў ведамственных арганізацыях раёну і с/с.

Райінспэктары! На штурм за палепшаньне народна-гаспадарчага вучоту, за ажыцьцяўленьне пастановы СНК БССР ад 13 жніўня за правідловую, выверанаю лічбу.

П. Р.

## За дэкаду ліквідаваць прарывы

У рабоце Касьцюковіцкай Райінспэктуры ёсьць цэлы шэраг прарываў, якія зьяўляюцца вынікам дрэннай пастаноўкі работы на мясцох у калгасах, саўгасах і сельсаветах.

Асабліва няўважліва адносяцца да выкананьня заданьняў па вучоту сельсаветы: **Беседавіцкі, Белынкавіцкі і Касьцюковіцкі м/с.**

На падставе гэтага Прэзыдыум **Касьцюковіцкага Райвыканкому** ў сваёй пастанове папярэджвае ўсіх старшынь і сакратароў с/с аб тым, каб даручаная работа Райінспэктарыятам Наргасвучоту насіла характар **ударнай работы**, каб яна выконвалась сваечасова і добраякасна.

РВК загадана, каб усе невыкананыя распараджэньні Райінспэктарыяту Наргасвучоту пры РВК, былі на працягу дэкады выкананы і ў далейшым не дапускаць зацяжку ў выкананьні.

## За несваечасовую, няправільную лічбу—да суровай адказнасьці.

Прэзыдыум **Талачынскага РВК** заслухаўшы справаздачу Інспэктара НГВучота на сваім паседжаньні выявіў рад нядбайных адносін да сваечасовай і дабраякаснай падрыхтоўцы матар'ялаў з боку дырэктароў некаторых промпрадпрыемстваў, саўгасаў, старшынь калгасаў і с|с.

У мэтах устанаўленьня сталага вучоту выкананьня пляну і плянаваньня як прамысловасьці, гэтак і сельскай гаспадаркі, Прэзыдыум абавязвае дырэктароў прадпрыемстваў і загадчыкаў установаў (саўгасаў, калгасаў, с|с) вылучыць адказнага па вучоту і прозьвішча апошняга паведаміць Інспэктарыяту НГВ.

За непрэдастаўленьне на працягу доўгага часу зьвестак прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасьці рад дырэктароў саўгасаў, промпрадпрыемстваў.

Дырэктар саўгаса **Крывое** аштрафаван у разьмеры—75 р., Дырэктар саўгаса **Лемніца**—за несваечасовую дасылку зьвестак і неправідловае запаўненьне картак аштрафаван у **75 р.** Дырэктар саўгаса **Гаршчэўшчына** за дачу неправідловых зьвестак і незвароту выпраўленых пашпартоў за Лесапілцы, рэекзаводу і молзаводу і недачу зьвестак па формам № 1, 2 і 3, па бровару, формам № 7—8 аштрафаваны ў 100 р. Аштрафаваны дырэктара Лесазаводу, саўгасу **Кулікоўка.**

Акрамя гэтага раду старшынь с|с абвешчаны вымовы і даручана ў бліжэйшыя тэрміны прадставіць адпаведныя матар'ялы.

## Не пераключыліся на выкананьне ўрадавай пастановы.

Ня гледзячы на яскравую дырэктыву Ураду (апошняя пастанова СНК БССР ад 13|VIII-32 г.) дзе ўказана, што вучотна-статыстычная справа знаходзіцца зусім у нездавальняючым становішчы ў сувязі з чым наглядаюцца выпадкі **„Очкоўцірацельства“**, паданьне няправільных зьвестак, пашырэньне ўстаноўленных тэрмінаў для паданьня гадавых, квартальных, месячных справаздач і г. д., аднак яшчэ дагэтуль прадпрыемствы і арганізацыі гор. **Віцебска** і раёну не пераклычыліся на выкананьне гэтай пастановы.

Адзначаючы гэтакае становішча недапушчальным, вядучае да зрыву работы Інспэкцыі Наргасвучоту, і сваечасовага складаньня агульна-гарадзкой зводкі аб працы прадпрыемстваў і тэрмінаў, прадстаўленьня матар'ялаў у Менск і мясцовым арганізацыям, Прэзыдыум Віцгорсавету рашуча прапануе пад асабістую адказнасьць адміністрацыі прадпрыемстваў і арганізацыі на працягу дэкады ліквідаваць запазычанасьць па вучотна-статыстычным работам.

За непрадастаўленьне ў тэрмін справаздачнасьці (на падставе п. 23, арт. 155, збор законаў БССР за 1932 г. аб парадку накладаньня адміністрацыйнага спагнаньня) аштрафаваны:

Галоўны бухгальтар Панчошнай ф-кі „Кім“ тав. **Дворкін** на 100 р. за непрадстаўленьне форм № 3 (штомесячная справаздача па арганізацыі працы) з красавіка месяца і дадатковыя карткі № 2-а на чэрвень месяц (тэрмін прадстаўленьня 1|IX) і за прадстаўленьне пашпарту прадпрыемства са спазьненьнем і неправідловымі зьвесткамі.

Галоўны бухгальтар **т. Фёдараў** з Белмяскамбінату на 100 р. за вялікае спазьненьне (15—20 дзён) з прадстаўленьнем штомесячных справаздач па формам **№ 1, 2, форма № 3,** зусім не прадстаўляецца да гэтага часу і за дрэнную якасьць матар'ялаў.

Рашуча папярэджаны адміністрацыі:

Плодвінзавод, Садвінтрэсту за непрадстаўленьне форм 1, 2 і 3 з чэрвеня месяца і пашпарту прампрадпрыемства.

Цагельня № 3 і Чарапічны завод Карнітрэсту за спазьненьне з прадстаўленьнем форм—1, 2, 3 і за непрадстаўленьне пашпарту Прадпрыемства і дадатковай карткі па форме № 2 а за чэрвень.

Фабрыка **„Шэрсьць-вата“** за прадстаўленьне штомесячнай справаздачнасьці са спазьненьнем больш месяцу і дрэннай якасьці матар'ялу.

**Дзяржмлын** за непрадастаўленьне форм 1, 2, 3 за чэрвень ліпень і пашпарт з прадпрыемства.

**Хлебазавод** за непрадастаўленьне формы 3—4 за чэрвень, карткі № 1 на 1|7 і пашпарту прадпрыемства.

**Белсельбуд** за прадстаўленьне штомесячных справаздач па будаўніцтву з вялікім спазьненьнем і дрэннай якасьці.

Дырэктары саўгаса МОПР, **Падбярозье, Дзяржынскага „Новы Сьвет“ і Парыская Камуна“** за непрадстаўленьне штомесячных справаздач па працы і пэнсіі (форма 7 і 8).

Статыстыкі: **Міхалеўскага, Вялікага-Лятчанскага і Нікалаеўскага** сельсаветаў за непрадастаўленьне штомесячных справаздач па адыходніцтву статкартак па ЗАГС'у і зьвестак аб начскладзе насельніцтва.

т. т. Папова і Іваноўскага (ЗРК Дьвіна), Капылева і Школьніка (ЦРК) Ганкіна і Бейліна (Белгандаль) Рэўзіна (Інструктар ЗРК) Шчаткомбу за зацягваньне перапісу таварнай сеці і тавараз вароту.

## Прэмія—за датэрміновае выкананьне работ

### (Выпіска з-загаду па Кіраўніцтву).

У мэтах падвышэньня якасьці матар'ялаў бюджэтнага абсьледаваньня рабочых і служачых і скарачэньня тэрмінаў распрацоўкі іх пачыная з здачы матар'ялаў за кастрычнік м-ц уводзяцца зьдзельна прэміяльная сыстэма.

Канчатковы тэрмін прадстаўленьня бюджэтаў устанаўліваецца праз 10 дзён па сканчэньні месяцу для Талачынскага, Пухавіцкага і Клічаўскага раёнаў і для Рэчыцкага 8-га,

2. Матар'ял перад адсылкай павінен быць канчаткова праверан Інспэктурай.

3. За здачы раней тэрміну матар'ялу устанаўліваецца прэмія ў залежнасьці ад высылкі бюджэтаў к адпаведным тэрмінам.

| Дата атрыманьня бюджэта КНГВ | Проц. прадстаўленьня бюджэтаў | Разьмер аплаты за 1 бюджэт | | |
|---|---|---|---|---|
| | | Пры абсьледав. раёна да 20 сямей | | Пры абсьлед. раёна ад 20—30 сямей |
| | | Талачынскі Пухавіцкі і Клічаўскі р. | Рэчыцкі раён | Талачынскі, Пухавіцкі і Клічаўскі раён |
| 10 чысла | 100 | 5 р. | — | 5 р. |
| 0—8 „ | 100 | — | 5 р. | — |
| 9—8 „ | 50 | 5 р. 10 к. | — | 5 р. 20 к. |
| 9—8 „ | 100 | 5 р. 30 к. | — | 5 р. 50 к. |
| 7—6 „ | 50 | 5 р. 30 к. | 5 р. 10 к. | 5 р. 50 к. |
| 7—6 „ | 100 | 5 р. 70 к, | 5 р. 30 к. | 6 р. |
| 5—4 „ | 50 | — | 5 р. 30 к. | — |
| 5—4 „ | 100 | — | 5 р, 70 к. | — |

Аплата ўтвараецца ў залежнасьці ад процанту атрыманых КНГВ бюджэтаў. Так напрыклад, калі з 25 бюджэт. Кіраўніцтва атрымае 7 чысла—13 бюдж., то аплата іх утвараецца па 5 р. 60 к. Калі астатнія бюджэты (12) будуць прадстаўлены 11-га. то аплата іх утвараецца па 5 р. 20 к. У тым выпадку калі 11-га чысла будзе прадстаўлена не апошняя частка 12 бюджэтаў, а толькі 8, то аплата іх будзе ўтварацца па 5 р. 10 к. за бюджэт. Пры здачы матар'ялу менш 50 проц. ня выплачваецца да часу атрыманьня КНГВ 50 проц. усіх абсьледуемых бюджэтаў.

4. Пры заўважэньні ў час кантролю памылак і няўвязкі паміж асобнымі формамі выпраўленьне іх адносіцца за кошт прэміі рэгістратара.

# Работа ведамств

## Белкустпрамкоопэрацыя ганебна адстае.

Вытваранае Сэктарам Арг. і Рэканструкцыі Вучоту КНГВ БССР а 2-й палове кастрычніку г. г. абсьледваньне становішча вучоту і справаздачнасьці сыстэмы Белкустпромкоопэрацыі выявіла, што ня гледзячы на ўсе пастановы партыі і Ураду, Кіраўніцтвам Прамкааперацыі да гэтага часу не прынята належных захадаў да наладжваньня правідловага і своечасовага вучоту. У выніку гэтага аказалася тое, што з маючыхся 16 саюзаў, якія аб'ядноюць 1100 арцеляў, амаль ні адзін не атрымоўвае і не апрацоўвае сваечасова матар'ялаў справаздачнасьці ад сваіх арцеляў.

Шэраг саюзаў атрымоўвае справаздачныя матар'ялы толькі ад нязначнай колькасьці арцеляў. Напрыклад, **Белпрамбытсаюз.** які аб'ядноае 80 арцеляў, справаздачнасьць за верасень атрымаў толькі ад 20 (25 проц.), па шырспажыву—10 проц., тэлеграфных зьвестак за 1 дэкаду кастрычніка да 17|X паступіла толькі ад 1 арцелі **Белуціль саюз** (які аб'яднае 67 арц.), штомесячную картачку па збору ўціля за верасень атрымаў толькі ад 22 (33 проц.), дэкадныя зьвесткі па збору ўціля.

За першую дэкаду кастрычніка паступіла ад 7 арц. **Белпрамхарчсаюз**—63 арц., справазд. за верасень атрымаў ад 33 проц.

Якасьць атрыманых справаздачных матар'ялаў нездавальняючая Уключаецца толькі часгка выраблеиай прадукцыі, ёсьць разыходжаньні паміж дэкаднымі і месячнымі зьвесткамі. Напрыклад, Барысаўская арцель (Ментэкстыльшвэйпрамсаюз) па дэкадным зьвесткам за верасень выпусьціла прадукцыі на 36,2 т. р., а па месячным на 68,9 т. р. зьвесткі часта бываюць прыблізна арыентыровачныя, зьбліжана выпрацоўка з рэалізацыяй.

Пры гэтакіх умовах саюзы ня маюць магчымасьці апрацаваць і прадставіць у Белкаапрамсавет сваечасовай і дабраякаснай справаздачнасьці. Не атрымоўваючы ад усіх арцеляў патрэбных форм, саюзы вымушаны або зусім не прадставіць у БКПС зводнай справаздачнасьці або экстрапаліраваць у значна высокіх проц.

Усё гэта не дае праўленьням арцеляў, саюзаў і самому прэзыдыуму БКПС магчымасьці правільна кіраваць гаспадарчай дзейнасьцю сваечасовага рэагаваньня на выпадкі невыкананьня пляну і прыняцьця неабходных мер для ліквідацыі прарываў у гаспадарчай дзейнасьці.

Калегія КНГВ заслухаўшы на сваім паседжаньні даклад аб становішчы вучоту ў сыстэме прамкаапэрацыі, прапанавала Белкапправсавету неабходна наладзіць правідловую пастаноўку вучоту, для чаго БКПС павінен ажыцьцявіць шэраг мерапрыемстваў з якіх галоўнымі зьяўляюцца:

1. Прыняцьце рашучых мер узьдзейнічаньня супроць арцеляў, якія не прадстаўляюць справаздачнасьці.

2. Увядзеньня сыстэмы прэміяваньня за сваечасовую і добраякасную справаздачнасьць.

3. Вылучэньне члена праўленьня ў арцелі і Саюзе; адказнага за вучот.

4. Практыкаваньня мэтаду выкліка арцеляў на паседжаньні праўленьня Саюзу і праўленьні Саюзаў на Прэзыдыум БКПС для дакладаў аб становішчы вучоту і справаздачнасьці.

5. Арганізацыя падрыхтоўкі вучотных кадраў.

6. Арганізацыя месячніку штурму па ліквідацыі прарыву ў справаздачнасьці.

Усе гэтыя мерапрыемствы павінны значна палепшыць справу вучоту ва ўсей сыстэме прамкаапэрацыі.

Акрамя гэтага Сэктар Вучоту і справаздачнасьці БКПСавету павінен у далейшым займацца не толькі зводкай атрыманых форм справаздачнасьці, а весьці працу па арганізацыі і мэтадалёгіі вучоту таксама неабходна зьвярнуць дастатковую ўвагу інструктажу нізавых зьвеньняў, які да гэтага часу цалкам адсутнічае.

Барацьбу за лічбу верную—лічбу актуальную ў цэнтр увагі ўсіх работнікаў прамкаапэрацыі.

**Левін**

## За разгортваньне працы ВОСУ

Рэарганізацыя б. ОРУ (аб'яднаньня работнікаў вучоту) у шырокае масавае Усесаюзнае Таварыства Садзейнічаньня Сацыялістычнаму Вучоту (ВОСУ) мае буйнае палітычнае значэньне.

Асноўнай задачай гэтага т-ва, якое працуе пад агульным Кіраўніцтвам Усе ЦСПС, на дадзеным этапу зьяўляецца ўцягненьне шырокіх мас рабочых, калгасьнікаў, побач з работнікамі вучоту і пляніваньня, у працу па перабудове нізавога вучоту і наогул, па рэканструкцыі вучоту і справаздачнасьці. Уся праца т-ва павінна будавацца на базе заводаў, фабрык, сяўгасаў і калгасаў, з пераносам цэнтру цяжару ўсей працы ў цэх, вучастак, брыгаду.

Оргбюро Бел. ОСУ прыступіла да організацыі на буйнейшых прадпрыемствах і ва ўстановах мясцовых груп ОСУ.

Асноўнымі задачамі мясцовых груп ОСУ зьяўляецца;

а) актыўная дапамога справе арганізацыі правільнага першапачатковага вучоту, рацыяналізацыі і мэханізацыі ўсей сыстэмы вучоту данай гаспадаркі;

б) сыстэматычная праца па садзейнічаньню рабочым, калгасьнікам, служачым і інш. у наладжваньні штодзённага вучоту гаспад.

разьліку і пляну ў працы рабочых (калгасных) брыгад, дапамагаючы кожнаму рабочаму і калгасьніку ўлічваць як колькасныя, так і якасныя вынікі сваей працы;

в) распаўсюджаваньне сярод шырокіх мас працоўных рахунковастатыстычных вед, а таксама падвышэньня кваліфікацыі работнікаў вучоту,

Усю сваю працу мясцовыя групы ОСУ вядуць на пачатках шырокай масавасьці і самадзейнасьці сваіх членаў, мэтадамі соцспаборніцтва і ўдарніцтва, пад агульным кіраўніцтвам ФЗМК і арганізацыйна-мэтадычным Кіраўніцтвам Бел. ОСУ.

ЦСПСБ сьпусьціў усім раёнам і гарадзкім профарганізацыям дырэктыўны ліст аб іх удзелу ва ўтварэньні раённых аддзяленьняў і мясцовых груп ОСУ і аб належнай дапамозе ў разгортваньні апошнімі сваей працы.

Бел. ОСУ павінна стаць сапраўднай масавай арганізацыяй, якая мабілізуе рабочых, калгасьнікаў, спэцыялістаў вучоту і інш. на барацьбу за бальшавіцкія тэмпы ў разгортваньні сацыялістычнага вучоту

**К.**

Па Саюзоргвучоту.

## У 500 апаратах рахункова-статыстычныя работы пераведзены на зьдзельшчыну

Аднэй з функцый У|А „Саюзоргвучот“ і яго філіалаў зьяўляецца кансультацыя і інструктаж у галіне вучоту і нізавога плянаваньня.

Сэктар Кансультацыі і інструктажу, з моманту сваей арганізацыі, займаўся выключна выкананьнем пастановы СНК БССР ад 20|1-32 г., па якой на Саюзоргвучот ускладзена распрацоўка асноўных прынцыпаў стымулюючых форм аплаты працы ў кіраўнічым апараце, кансультацыя ўстаноў і прадпрыемстваў, і сыстэматычнае вывучэньне вынікаў.

Адпраўным пунктам сваей работы „Саюзоргвучот“ абраў рахунковастат. апарат, улічваючы, што гэта найбольш буйны масіў савапарата і з прычыны адсталасьці і дрэннай якасьці вучоту ня выконвае асноўных функцый вучоту, як зброю кантролю выкананьня пляну і калькуляваньня ў вытворчасьці.

Яшчэ вельмі важным зьяўляецца тое, што рах. стат. апараты паддаюцца пераводу на адну з самых стымулюючых форм аплаты на прамую індывідуальную зьдзельшчыну.

Усе гэтыя моманты поўнасьцю пацьверджаны практычнай працай.

Сэктар кансультацыі разгарнуў значную працу па БССР, у выніку чаго па БССР маецца звыш 500 апаратаў, працуючых зьдзельна.

Асноўная ўстаноўка была узята на буйныя гаспадарчыя сыстэмы, у якіх праводзілася эксперымэнтальная праца у 1—2 аб‘ектах і. вопыт перадаваўся на усе астатнія прадпрыемствы сыстэмы (як Лес-

бел, Мэталяаб'яднаньне, Белкаапсаюз, Белшкло, Белбудаб'яднаньне Дзяржзбыт і інш.

Эфэктыўнасьць пераводу паказанай групы работнікаў кіраўнічага апарату, дае наступныя паказальнікі:

Ліквідацыі адсталасьці.

Зьніжэньне альбо захаваньне фондаў зарплаты.

Скарачэньне апарату, аслабаненьне кадраў.

Павялічэньне сярэдняга заробку.

Палепшаньне якасьці вучоту.

У выніку практычнай працы, Сэктарам Кансультацыі распрацаваны дасканалыя прынцыпы, якія будуць пакладзены ў аснову спэцыяльнага рыхтуемага да выданьня мэтодолёгічнага матар'яла па пытаньням нармаваньня працы рах.-статыстычных апаратаў на беларускай і расейскай мовах.

Значным дасягненьнем у гэтай працы па выкананьні пастановы СНК БССР трэба адзначыць тое, што кансультацыйная праца разгорнута ня толькі ў Менску, а у ва ўсіх буйных цэнтрах БССР шляхам выездаў у раёны, скліканьне усебеларускага 3-х дзеннага семінара, масавых дакладаў ў 14 гарадох БССР, арганізаваны пункты з актывам кансультантаў у 60 чалавек.

Значным недахопам у працы трэба аднесьці слабую папулярызацыю, адсутнічаньне сталага органа, які бы асьвятляў ход працы, эфэктыўныя моманты і недахопы.

Рэзьнік.

## Абмен вопытам—адсталы вучастак

Аднэй з функцый кансультацыі работы Саюзорвучота, зьяўляецца арганізацыя абмену вопытам у галіне вучоту і нізавога плянаваньня.

Асноўнай формай гэтай працы ўстаноўлена: Арганізацыя на прадпрыемствах і ва ўстановах карэспандэнцкіх пунктаў, якія праз вылучаных грамадзкасьцю вучотных карэспондэнтаў трымаюць сувязь з групай абмену вопытам. Вучкоры павінны здымаць лепшы вопыт і дасягненьні па вучоту і плянаваньні на сваім прадпрыемстве, апісаць яго і перадаваць у сэктар Кансультацыі Саюзоргвучота, які выдае іх у парадку абмену вопытам для перанясеньня ў іншыя галіны народнай гаспадаркі.

Гэты вучастак працы—абмен вопытам, вельмі важны па свайму зьместу, нажаль да гэтага часу не атрымаў адпаведнай ацэнкі і ўвагі з боку рахункав. статыст. і плянавых працаўнікоў.

Саюзоргвучотам адпаведная праца разгортвалася. Арганізавана 26 карпунктаў з кольк. карэспандэнтаў 49 чалавек.

Скліканная інструкцыйная нарада, не адбылася з прычыны няўкі вучкораў.

У шмат якіх установах і прадпрыемствах маецца каштоўны матар'ял, але-ж невядома чаму гэты матар'ял не перадаецца.

Бязумоўна, што гэтакае становішча зьяўляецца ненармальным.

У разгортваньні абмену вопытам павінен быць створан пералом Рах. статыстычныя і плянавыя працаўнікі, установы і прадпрыемствы павінны апісваць і перадаваць усе матар'ялы па абмену вопытам у Бел. К-ру „Союзоргучет“.

Р.

## Да Ўсебеларускай канфэрэнцыі па нармаваньні працы рах.-стат. работнікаў

8 месяцаў працы, па выкананьні пастановы СНК БССР ад 20/I 1932 г. па пераводу работнікаў апарату установ на стымулюючыя формы аплаты, паставілі пытаньне аб падагульненьні гэтай працы; дачы ацэнкі намячэньне шляхоў далейшай працы.

З дазволу вышэйшых органаў Беларускай Канторай Саюзоргвучотам 1 сьнежня г. г. у Менску склікаецца Ўсебеларуская Канфэрэнцыя з наступнай абвесткай дню:

1. Справаздачы раёнаў (у парадку абмену вопытам).
2. Распрацоўка мерапрыемстваў па выпраўленьні скажэньняў у практыцы пераводу.
3. Пераход да вышэйшай ступені тэхнічнага нармаваньня.
4. Пераход да нармаваньня працы астатніх груп работнікаў.

Зараз праводзіцца падлік эфэктыўнасьці пераводу, на зьдзельшчыну па БССР, для чаго, разаслана ва ўсе раёны спэцыяльная анкета, спушчана дырэктыва ЦСПСБ і НК Працы аб складаньні праверачных брыгад.

На сёньняшні дзень шмат матар'ялаў паступаюць і апрацоўваюцца для рэспубліканскай зводкі.

У Канфэрэнцыі павінна ўдзельнічаць да 250 чал. (з раёнаў—100, з Менску—150).

Запрашаюцца прадстаўнікі найбольш буйных філіялаў Саюзоргвучота, НК Працы ССР, Оргбюро ВОСУ пры УсеЦСПС і інш. арганізацыі.

Р.

---

Адказны рэдактар Магідаў У.

Рэдкалегія: Шындлер С.
Сьляпян С.
Топаз Д.
Альтшулер.

## ЗЬМЕСТ


Стар.

Уступ . . . . . . . . . . . 3

Выпіска з пратаколу паседжаньня Калегіі КНГВ БССР . . . . 4

### 1. Афіцыйны разьдзел.

Пастанова ЭКАНА аб фондах зарплаты . . . . . 5—7

Пастанова СНК аб палепшаньні справы вучоту . . . . 7—10

Пастанова ЭКАНА аб вучоце на камунальным будаўніцтве . . 10—11

Ліст Асінскага аб перабудове бухгальтарскага вучоту . . . 11—14

### 2. Работа КНГВ і яго сыстэмы

1ае сьнежня—апошні тэрмін вынікаў распрацоўкі перапісу промпрадпрыемстваў . . . . . . . . . . 15—17

Перапіс промабсталяваньня першай чаргі . . . . . 17—18

Выканаць пастанову ўраду . . . . . . . 18—19

Наладзіць правільны вучот зарплаты . . . . . 19—20

Паскорым устанаўленьне колькасьці сельскага насельніцтва па вучоту НКФ за 1932 г. . . . . . . . . 20—21

За добраякасны вучот базарнага гандлю . . . . . 21—22

Перапіс скончанага і няскончанага будаўніцтва 1931--1932 г. . . 22—23

Падвядзеньне ітогаў першай пяцігодкі па ахове здароўя праходзіць маруднымі тэмпамі . . . . . . . . 23—24

Абсьледваньне бюджэтаў калгасьнікаў на службу арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў . . . . . . 24—25

Установім штомесячную справаздачнасьць камунальных прадпрыемстваў 25

Сураж і Копыль па баявому перабудоўваюцца . . . . 25—26

За дэкаду ліквідаваць прарывы . . . . . . . 26

За несваечасовую няправільную лічбу—да суровай адказнасьці . . 27

Не пераключыліся на выкананьне ўрадавай пастановы . . . 27—28

Прэмія—за датэрміновае сканчэньне работ . . . . . 27—29

### 3. Работа ведамств.

Белкустпромкоопэрацыя ганебна адстае . . . . . 30—31

За разгортваньне працы ВОСУ . . . . . . . 31—32

У 500 апаратах рахункова-статыстычныя работы пераведзены на зьдзельшчыну . . . . . . . . . 32—33

Абмен вопытам—адсталы вучастак . . . . . . 33—34

Да Усебеларускай Канфэрэнцыі па нармаваньні працы рахункова—стат. работнікаў . . . . . . . . . 34



Друк. Кір. Спраў СНК Зак. 1657—400 Галоўлітбел № 1403